


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (1142) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 15 СТУДЗЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.




Далёка не кожны гераічны пачын вырастае ў неўміручую легенду. Для гэтага, відаць, мусіць ён захапіць сучаснікаў сваёй веліччу, вельмі моцна ўскалыхнуць пачуццямі, трывала ўрэзацца ў памяць і няспынна ўздзейнічаць на людское ўяўленне, якое праўдзівыя ўчынкі па меры іх аддалення ў мінулае нястомна спавівае ўсё больш красачнай казачнасцю.

Такой жывой па сённяшні дзень легендай сталі падзеі Студзеньскага паўстання 1863 года ў лясах непадалёк мястэчка Супрасль.

Даставерныя гістарычныя звесткі пра іх не надта багатыя. Вядома, што паўстанчаскі рух на Сакольшчыне ўзначаліў Валеры Врублеўскі, які пасля заканчэння Пецярбургскага ляснога інстытута пачаў працаваць у 1861 г. у Лясным вучылішчы ў Саколцы ў якасці інспектара. Адразу ён уключыўся ў стварэнне рэвалюцыйнай арганізацыі ў Гродне, супрацоўнічаў з Кастусём Каліноўскім у павелічэнні арганізацыі і нелегальным выдаванні першай беларускай газеты „Мужыцкая праўда“. На чутку аб успыхнуўшым у ноч з 10 на 11 студзеня 1863 г. паўстанні ў Каралеўстве Польскім Врублеўскі прыступіў да стварэння паўстанчаскага атрада на Сакольшчыне. Уваходзілі ў яго сыны збяднелай і сярэднезаможнай дэмакратычна настроенай акалічнай шляхты, дэзерціраваўшыя з царскай арміі афіцэры і салдаты, служачыя з розных установаў, рабочыя з паўстаўшых нядаўна ў Беластоку і суседніх з ім мясцовасцях шматлікіх тэкстыльных фабрык, сяляне. Цікава, што ў 400-асабовым паўстанчаскім атрадзе Врублеўскага было каля сотні сялян.

Атрад, абсталяваўшы ў самых недаступных лясных нетрах свае стаянкі і закапаўшы ў зямлю запасы, вандраваў ад сяла ў сяло, усюды склікаў на сходы сялян, аб'яўляў ім маніфест Народнага ўрада, дэкрэт аб зняссенні падданства, заклікаў уступаць у паўстанчаскія атрады і змагацца супраць царскага самадзяржаўя. Так было ў вёсцы Сакалда, Ліпавы Мост і шэрагу іншых. Царскія ўлады накіравалі супраць яго вайсковыя часці, наслалі шпіёнаў, рас-

(Працяг на стар. 4)



*Рэштка каплічкі на некалькісотгадовым дубе, што расце на скрыжаванні лясных дарог каля вёскі Суражкова.*

## З БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

За вокнамі — позняя, мокрая восень.

Чацверты і пяты класы злучаны ў адзін пакой — на „беларускую гадзіну“.

Такіх гадзін бывае толькі дзве на тыдзень, і ў кожным класе іх вядзе пані Мар'я. Дзеці даўно ўжо ведаюць, што яна — палячка. А вось дзе яна навучылася па-беларуску — аб гэтым яшчэ не дазналіся нават і яўрэйскія дзяўчаты, якія ведаюць усе таямніцы з жыцця местачковых „ужэнднікаў“.

Пані Мар'я піша з кніжкі на дошцы. „На дварэ дождж, а ў сенях вялікая лужына. Пусты ўлетку нашы сёлы. Венцер новы, маеш час — залатай“, — выводзіць яна сваім прыгожым прамым почыркам. Спісаўшы ўсю дошку яна загадвае чацвёртаму класу перапісаць практыкаванне і падкрэсліць назоўнікі адной рыскай, а прыметнікі — дзвюма.

У пятым класе будзе вуснае. Настаўніца бярэ беларускую чытанку „Родны край“ і кажа, як заўсёды, па-польску:

— Вядомая беларуская паэтэса Цётка пісала і вершы і прозу. Цяпер мы пазнаёмімся з яе навелай „Міхаська“. Увага.

І пачала чытаць:




(З „СІРОЧАГА ХЛЕБА“)

— „Міхаська вельмі неахвотна на гэты свет прыходзіў. Тры дні радзіўся. Людзі рукамі махнулі: нічога не будзе ні з мацеры, ні з дзіцяці...“

І як заўсёды, калі пані Мар'я чытае па-беларуску, голас яе адразу стаў яшчэ мілейшы. Дзяўчаткі і хлопцы з пятага класа, якія сядзелі па чацвёра-пяцёра на адной парце, заціхлі і загледзеліся на настаўніцу. Цяжка было пісаць і чацвёртаму класу. А найцяжэй, здаецца, Даніку... Ды і навошта яму гэтыя назоўнікі, прыметнікі, пустыя сёлы і незалатаныя венцяры, калі пані Мар'я чытае?..

Перад вачыма Сівага, нібы на яве, разгортваецца роднае жыццё і першая праца — пасьба. Толькі ж не так ужо цёмна і горка было заўсёды, як там у кнізе. У Даніка, хоць ён таксама сірата, слёз было менш, чым радасці. Хлеб сірочы, вядома, нялёгкі, аднак пра яго пакуль што больш думала мама.

Сівы ўспамінае, як яны, гальнкаўскія пастухі, збіралі жоўтую лотаць на залітых вясновай вадой паплавах, бегалі па цёпленькіх, празрыстых дажджавых лужынах на траве, гулялі на выгане ў „чыжыка“ і ў лапту, хадзілі ўлетку на Нёман...

Пані Мар'я чытае пра восень і дождж... Нехта падстрэліў недзе жорава, і, абяссілены, ён асядаў на лузе. Пастухі пачалі яго з крыкам лавіць, а ён — не давацца. Падумаў на Міхаську, што гэта купіна, і стукнуўся ў яго грудзьмі. Міхась затуліў яго халатам. А сябрукі, адбіраючы жорава, затузалі хлопца так, што ён самлеў. Хлопцы спалохаліся, адхаялі яго, завялі дахаты і жорава яму аддалі. Так яны і заселі ў запеку ў мачыхі, — галадалі, хварэлі і пацяшалі адзін аднаго...

— Малец, чаму ты не пішаш?

— Я пішу, — схамянуўся Данік. Ён схіліўся над сшыткам, а пані Мар'я паківала галавой, памаўчала трохі і зноў чытае.

Да вясны жораў паправіўся і зажыў у хаце царом над курамі. Міхась раставаў, як той снег за акном. Аднойчы на прадвесні мачыха сядзела за кроснамі, а ён азваўся з запека: „Мама!..“ Упершыню пачула баба такое слова ад пасынка. І толькі спалохалася, — смерць!.. „Мама, мамачка, жорава дай!..“

Чаму на гэтых словах пані Мар'я

(Працяг на стар. 4)

## З візітам у хаце-музеі Міхала Байко



*Міхал Байко рэкамендуе бязмен з канца XIX ст.*

Нашы чытачы ведаюць ужо Міхала Байко з Белавежы і яго этнаграфічны музей, які ён стварыў у сваёй хаце. Пісалі мы пра яго ў „Ніве“ № 17 ад 25.IV.76 г. Трэба сказаць, што наш артыкул многа памог у павелічэнні ліку экспанатаў для гэтага музея. Многія жыхары пачалі самі заяўляць М. Байко аб жаданні адступіць старыя непатрэбныя прадметы. Увогуле пачалі ў асяроддзі шанаваць усялякія рэчы, ужываныя нашымі дзядамі і прадзедамі. Сёння музей М. Байко налічвае ўжо каля 100 экспанатаў.

Варта назваць цікавейшыя новыя набыткі музея. Напэўна вялікую каштоўнасць прадстаўляюць сабой бязмен, выкананы ў канцы XIX ст., ступка для біцця перцу з пачатку XX ст., прылада для перамотвання нітак са шпулі калаўрота на матавіла, выкананая перад I сусветнай вайной У. Прыступюком з Чыжыкаў. Многа прадметаў даў Міхалу Байко Аляксандр Храноўскі з Белавежы, як, напрыклад, драўляныя вілы для сена (вык. у міжваенны перыяд), драўляныя канькі (пачатак XX

(Працяг на стар. 3)




### ГАГАТУХА

Павячэраўшы, стары падсунуў столачак бліжэй да печы ды, абапёршыся плячыма аб цёплую сценку, сонна ківаў галавою, быццам бы адлічваў пражытыя гады. Бабы памалу збіралі са стала ды прыбіралі ў хаце. Заўтра ж Новы год, свята. Васьмігадовы Міколка любіў такія хвіліны. Любіў прысесці каля дзеда, ды заслухацца ў яго ўспаміны. Дзед ахвотна прыпамінаў пражытае, а Міколка сваім дзіцячым розумам укладаў з гэтага свет яго маладосці. І яму здавалася, што не дзед, а ён з'яўляецца галоўным героем расказа.

— А чаму, дзеду, гагатуху багатым вечарам называюць? — перарваў дзедава драманне.

— Як чаму? Гэта ж апошні вечар года. Цэлы год людзі працавалі, пакуль дачакаліся гэтага вечара. Гэта як бы падлік пладоў гадавой працы. Таму яго і называюць багатым. Падумай толькі, колькі за год усяго назбіралася.

— А гагатаць, дзеду, пойдзеш?

— Што ты, цяпер ужо гэтага няма... — неяк сумна прагаварыў стары. — Усё прайшло. Адна глухамань на вёсцы. Абы што, дык зараз крыўдзяцца, у суд падаюць.

Дзед сумна ківаў галавою, блудзячы сваімі сумнымі вачыма недзе далёка-далёка. Раптам ажывіўся, і, здавалася, быццам бы памаладзеў. Міколка ўжо ведаў, што пачне расказваць.

— Каб ты ведаў, што калісьці за жыццё на вёсцы было. Адна весялосць. Калі я быў крышку большым падшпаркам чым ты, дык хто гэта ў гэтую пару ў хаце сядзеў. А яшчэ на гагатуху! Павячэраў ды за вядро з попелам і гайда за дзверы сцяжынкі па вуліцы высыпаць. Толькі тупат ног па вёсцы разносіўся. Высыпем сцяжынку, загагочам пад акном — ды ходу. Ой, раз то фокус з гэтага выйшаў. Памятаю, сыпалі мы попелам ад Кірылавага Івана да Матроны. А ў нашай кампаніі быў такі Рыгор, ты яго не памятаеш, памёр ужо — зямля б яму лёгкай была. Ну і голас ён меў. Як зарагоча, бывала, дык у вёсцы ўсе вароны з страшным крыкам з дрэў паўзлятаюць. Дасыпалі мы, значыць, да Матроны, а Рыгор як не заспявае сваё „гу-гу-гу", дык тая як несла міску з гарачай кішкай, так і паставіла, замест на стол, на галаву старому Ніканору — свайму бацьку. Мы са смеху ледзь не паўсікаліся. Што і не выраблялі ў гэты вечар!.. Усе вароты паздымаем ды пазаменьваем. Цэлы ранак на другі дзень ходзяць людзі ды шукаюць. А раз як павыносілі за вёску, дык да вясны знайсці не маглі. Снегам занесла. Памятаю, аднойчы суседу нашаму варотамі дзверы ў хату загарадзілі. Ды так прыладзілі, што з хаты акном мусіў вылазіць. Часамі каму-небудзь стог з сенам за вёску за ноч перанясем, або санкі схаваем. То яшчэ і зафундуе, каб паказалі, дзе схавалі. Ой рабілася, рабілася! Але людзі ведалі, што так прынята і хто там бы крыўдзіўся. А зараз?.. Злодзеем або хуліганам назвалі б. Дзіўныя цяпер людзі. Але лягай ужо, унучак. Заўтра ўстанеш, грашыма памыешся, каб быць багатым цэлы год. Лягай, а я яшчэ на двор выйду.

Дзед накінуў на плечы кажух і выйшаў за дзверы. Міколка, распранаючыся, чуў як паскрыпвае снег пад дзедавымі валёнкамі, як забрахаў сабака, просячы звальнення з ланцуга.

Накрыўшыся коўдраю, думкамі блукаў яшчэ ў гадах дзедавай маладосці, у тагачасным жыцці вёскі. І ўжо засынаў, калі пачуў на парозе злосны голас дзеда.

— От сабакарнікі! Вароты знялі. Каб крышку раней выйшаў, дык злавіў бы. Якраз уцякалі. Што за дурната трымаецца. І то Валодзеў Іван. Ва універсітэце вучыцца, а такой ерундовінай займаецца. Заўтра да бацькі пайду. Такі бамбіза, а... І тут дзед, глянуўшы на ўнука, замаўчаў. Скінуў кажух, зняў валёнкі і палез на свой запечак.

**Бізун**




# З візітам у хаце-музеі Міхала Байко

(Працяг са стар. 1)

ст.), ступа для біцця семені (з 1926 г.). Ян Філіпчук адступіў вілы для ўстаўляння чыгуноў у печ, выкананыя яго бацькам Васілём перад І вайной, а таксама гліняны гаршчок. Здзіслаў Пуц са Смалянага Садка перадаў у музей лапці, плеценыя з лыка, а Сцяпанія Кіслякова калаўрот з пачатку XX ст.

Цікава рэкамендуецца ў зборах будзільнік з 1924 г., да якога аздобнае драўлянае ўмацаванне зрабіў у міжваенны перыяд Уладзімір Прыступюк, а таксама насценны гадзіннік, выкананы ў Расіі ў 1890 г. Сапраўднай разынкай у зборах з'яўляюцца велікодныя яйкі, маляваныя манахамі з манастыра ў Яблэчнай, што ў ваяводстве Белая Падляшская. Яйкі паказвае М. Байко звычайна на драўлянай вазе, зробленай у міжваенны перыяд Сцяпанам Арцюхом з Белавежы.

Многа экспанатаў, якія знаходзяцца ў музеі М. Байко, выкананы яго дзедам Дзімітрам і бацькам Сцяпанам. Дом, у якім перахоўваюцца зборы, збудаваў з двух павецяў у 1920 г. пасля вяртання з бежанства дзед Дзімітр.

Вясной М. Байко будзе прыводзіць у парадак тую частку дома, якая выкарыстоўвалася дагэтуль як свіран. Будзе там месца для экспазіцыі тых экспанатаў, якім цяпер не хапіла месца ў вельмі маленькім пакоі, у якім, уласна кажучы, здаўна не хапала месца на новыя прадметы.

Як усё добра пойдзе, М. Байко праз пару гадоў зарэкамендуе свае зборы ў ветраку, які перавязе ў Белавежу з адной з прыпушчанскіх вёсак. Мае ўжо нават на перавязенне згоду ваяводскага захавальніка помнікаў старадаўнасці (ваяводскага кансерватара). Марыць ён таксама, каб каля ветрака ўладзіць тыповую беларускую сялянскую сядзібу і паказваць турыстам, наведваючым Белавежу, як жылі нашы продкі.

Думка цікавая, вельмі цікавая. Жадаем М. Байко, каб як найхутчэй яе ажыццявіў.

**Пётр Байко**
Фота аўтара



*Вугал з іконамі.*



*Ступа для семені з таўкачом, выкананая ў 1926 г. Якубам Храноўскім.*



*Драўляныя канькі з пачатку XX ст.*



*Лапці-забалонкі (злёва) і з лыка.*

У ДАПАМОГУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

## Я лясам свае паведаў думы

**Словы: С. Бандарэнка**
**Музыка: Л. Панько**




Я лясам свае паведаў думы
Свае вершы я чытаў сасне,
І яна ў адказ маркотным шумам
Аб мінулым нагадала мне.
Нагадала сцежкі і паляны
Зарывам асвечаныя дні,
Песні, што спявалі партызаны
У лясной трывожнай цішыні.
Паласнулі памяць успаміны,
Рэхам адгукнуліся ізноў,
Як з вайны чакала маці сына,
Але ён дадому не прыйшоў...

Тут, у лесе, зараз ціха-ціха
Не грымяць, як некалі, баі,
І вясной, забыўшыся пра ліха,
Лірыкай заняты салаўі.
Толькі там, паблізу ля паляны,
Дзе сляды пакінула вайна,
Над магілай сына-партызана
Не спыняе сумаваць сасна.
Што ж, шумі, мая сасна, на ўзлессі,
У набаты біце, салаўі!
Я прымаю і тугу, і песні, —
Не прымаю смерці і крыві.

## Успамін пра М. Арла

14 снежня 1977 года на Сенатарскай адбыўся вечар, прысвечаны 60-ай гадавіне смерці сына беластоцкай зямлі М. Арла (Сцяпана Пятэльскага).

Са змястоўным дакладам выступіў Ю. Туронак, які прадставіў вынікі сваіх доследаў над жыццёвым шляхам і літаратурнай спадчынай гэтага малавядомага паэта нашаніўскай пары.

М. Арол нарадзіўся каля 1890 года ў Гарадку і працаваў настаўнікам на Беласточчыне і Гродзеншчыне. Мабілізаваны ў царскую армію, геранчна змагаўся з немцамі на фронце, за што быў узнагароджаны вышэйшай узнагародай — Георгіеўскім крыжам. Памёр ад тыфу недзе на пераломе 1917-1918 гадоў.

М. Арол друкаваў свае вершы і апавяданні на старонках „Нашай нівы".

Сабраныя Ю. Туронкам цікавыя вершы М. Арла „У дарозе", „Досвітак", „Сычам і совам", „Сяўцом", „Смерць і жыццё", „Ахвяра", „Арфа", „Доля і жабрак" і іншыя чыталі на вечары З. і Ю. Туронак, а таксама Н. Артымовіч.

Прысутныя на вечары, сярод якіх было шмат студэнтаў, знаходзіліся ў поўным захапленні ад цікавых, на высокім мастацкім узроўні вершаў нашага земляка.

Выступаючыя ў дыскусіі сцвярджалі, што было для іх вялікай нечаканасцю тое, што яшчэ ў дарэвалюцыйны час жыў і тварыў на Беласточчыне такі таленавіты паэт. Дыскутанты выказвалі пажаданні, каб гэтыя каштоўныя літаратурныя творы з архіўных полак трапілі ў рукі шырэйшага кола чытачоў і выратавалі ад забыцця іх земляка — паэта, шчырага патрыёта роднай зямлі і беларускага народа.

**Віктар Швед**




# Нашаніўская пара

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XIII**

**Праблемы старасці.** Старасць і вынікаючыя з яе клопаты гэта адна з асноўных тэм дарэвалюцыйнай прозы Бядулі. Да гэтай тэмы звяртаецца пісьменнік у такіх творах як: „Умарыўся", „Дудар", „Туга старога Міхайлы", „Летапісцы". Выступае яна таксама ў многіх ужо вядомых нам апавяданнях.

Трэба падкрэсліць, што старасць і звязаныя з ёю жыццёвыя нягоды паказаны пісьменнікам з глыбокім веданнем вясковай рэчаіснасці. Праблемы старасці разглядае ён найчасцей у двух аспектах. Па-першае, цікавяць яго канфлікты паміж дзецьмі і старымі бацькамі. Па-другое, задумоўваецца ён над псіхалагічна-суб'ектыўнымі камплікацыямі старасці. Прыкладам твора, у якім паказаны канфлікт па лініі бацькі-дзеці, можа быць ужо вядомае нам апавяданне „На каляды к сыну". Да гэтай самай тэмы звяртаецца Бядуля ў апавяданнях „Умарыўся" і „Летапісцы".

Героем апавядання „Умарыўся" з'яўляецца добры гаспадар і добры бацька стары селянін Габрусь, які прыходзіць да вываду, што ўжо час раздзяліць гаспадарку паміж сынамі, перастаць працаваць і пачаць жыць на лёгкім хлебе. Рэалізаваўшы свой намер і выклікаўшы сваім крокам энтузіязм з боку сыноў і нявестак, Габрусь пераканаўся, што яго крок не прывёў да пажаданых вынікаў. Сыны і нявесткі пачынаюць адносіцца да старога як да дармаеда, да завады, як да прадмета, які страціў якую-колечы вартасць. „Змарылася сэрца старое... Змарыліся думкі... Старога Габруся пачала ўгнятаць незаслужаная крыўда ад дзяцей. Ён слабеў штодзень болей і болей... Пачаў сам з сабою гаварыць, бурчэць, злаваўся на ўвесь свет і сам на сябе... Сыны адсылалі адзін да аднаго, як шкодную, непатрэбную рэч..."

Апавяданне заканчваецца нечаканай сітуацыяй. Стары Габрусь ноччу пакідае родную хату і ідзе ў свет жабраваць. Развітваючыся з хатай, выказвае цэлы рад эмацыянальных думак, у якіх з'яўляецца яго крыўда, боль, роспач.

Заканчэнне апавядання занадта слязлівае, сентыментальнае. З гэтай прычыны траціць яно сілу ўздзеяння на чытача. Аднак трэба падкрэсліць, што сама праблема, грамадская з'ява, закранутая ў апавяданні, не можа не хваляваць чалавечае сэрца.

У апавяданні „Летапісцы" пісьменнік маляўніча рысуе постаць старога селяніна Мірона, які разам з унукам Андрэем піша сыну ліст. Ліст гэты з'яўляецца доўгай літаніяй крыўд і бедаў, якія Мірон зазнае ад сваёй нявесткі. Лёс Мірона ў многім падобны на лёс Габруся. Аднак можам тут гаварыць і аб пэўнай розніцы. Мірон не такі самотны, як Габрусь. Мае ён свайго аднадумніка і памагатага, унука Андрэя.

Калі ўважна прыгледзецца да ранняй прозы Бядулі, дык бачым, што ў адчуваннях аўтара група старых людзей належыць да катэгорыі нешчаслівых людзей. Пісьменнік падкрэслівае канфлікт паміж старымі і маладымі, якія не здаюць сабе справы з таго, што старасць з'яўляецца перспектывай кожнага з іх.




*Явор над рэкою так нізко схіліўсе,*
*з украіны да дзяўчыны казак прыхіліўсе,*
*з украіны да дзяўчыны казак прыхіліўсе.*
*Казак ад'езджае, на коня сядае,*
*а дзяўчына чорнабрыва слёзы праліваe,*
*а дзяўчына чорнабрыва слёзы праліваe.*
*Слёзы праліваe, так жаласно плачэ:*
*— Вазьмі мене і з сабою, малады казачэ,*
*вазьмі мене і з сабою, малады казачэ.*
*— Дзяўчынанька міла, што будзеш рабіла?*
*— Над рэкою шыракою каліну садзіла,*
*над рэкою шыракою каліну садзіла.*
*Пташкі прылеталі цвет каліны есці,*
*а для мене, маладое, прыносілі весці,*
*а для мене, маладое, прыносілі весці.*
*Пташкі прылеталі цвет каліны бралі,*
*а для мене, маладое, праўды ні сказалі.*

Ад Ольгі Галубоўскай, 1914 года нараджэння, вёска Новае Ляўкова гм. Нараўка, і Яўтінні Аліхвер, 1938 года нараджэння, вёска Старое Ляўкова гм. Нараўка, запісаў 26 лістапада 1977 года Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

**З НАТУРЫ**



*„А гармонік грае, грае..."*
*Фота І. Снарскага*

**Разведка гаспадарнасці**

## Святліца забіта дошкамі

Занепала культурнае жыццё ў вёсцы Семяноўка (гміна Нараўка). Ёсць тут святліца, у якой раней моладзь і старэйшыя культурна праводзілі свабодны час. На танцы з'язджалася сюды моладзь не толькі з навакольных вёсак, пасёлкаў, але нават з Гайнаўкі. Добра працаваў тут гурток БГКТ. Арганізаваўся аркестр.

Цяпер роспач агорне кожнага, хто наведваецца ў Семяноўку і гляне на будынак святліцы. Вокны і дзверы густа забіты дошкамі. Усё-такі заглянулі мы ў сярэдзіну. А там у кутку ля сцэны стаіць печка, якую нехта разабраў да палавіны ды забраў кафлі.

Тут успомніў я, што на старонках „Нівы" публікаваўся адказ начальніка гміны ў Нараўцы, што семяноўская святліца будзе адрамантавана. Аднак, не выйшла. Таму спадзяемся атрымаць новы адказ гмінных улад.

А ў сваю чаргу вялікая вёска Семяноўка здалася мне сумнай. Мабыць, таму, што святліца тут забіта дошкамі.

**Іван Непаседа**

## Крынкаўская ветэрынарная лячэбніца

Ветэрынарная лячэбніца ў Крынках, у якой працуе кіраўніком лекар Станіслаў Баркоўскі, а таксама тэхнік ветэрынарыі Бернард Пулторак, добра служыць сваёй ваколіцы ў развіцці жывёлагадоўлі. Абслугоўвае яна цяпер 24 вёскі і пудзялаўскі СКР, які мае жывёлагадоўчыя пункты авечак і адкорму свіней у Кныпэвічах, Гуранах, Паўночным Востраве і Піражках.

На працягу ўсяго года крынкаўская ветэрынарная служба найбольш увагі прысвячае прафілактыцы. У мінулым годзе зроблена больш як тры тысячы прышчэпак маладняку.

— Калісьці, — гаворыць лекар ветэрынарыі Станіслаў Баркоўскі, — асноўным нашым пацыентам быў конь. Але цяпер, дзякуючы сельскагаспадарчай тэхніцы, коней значна менш. Цяпер найбольш маем дачыненне са свінагадоўляй і авечкагадоўляй.

Лекар Баркоўскі гаворыць далей аб тым, што асабліва напрадвесні вельмі часта, часамі нават некалькі разоў у дзень даводзіцца выязджаць на вёскі, бо тады адбываецца масавае цяленне кароў і ветэрынар неабходны.

Крынкаўская ветэрынарная служба сочыць таксама за тым, каб добрая раса жывёлы не засмечвалася. З гэтай мэтай праводзяцца акцыі кастрацыі быкоў, бараноў, кныроў, жарабцоў. Вялікую ўвагу звяртаюць на птушкагадоўлю.

Лекар Станіслаў Баркоўскі, які родам з Любліна, працуе ўжо на Беласточчыне ад 1962 года, а ў Крынках ужо 13 год. За гэты час добра пазнаёміўся са сваім раёнам, з яго людзьмі, з іх псіхікай. Карыстаецца вялікай пашанай у людзей.

Але каб яшчэ больш паспяхова працавала крынкаўская ветэрынарная служба, патрэбныя ёй лепшыя ўмовы. Лячэбніца змяшчаецца ў памяшканні агранамоўкі, у якой яны нічога не маюць права змяніць. Транспарт таксама ў іх неадпаведны. Маюць яны толькі машыну „Жук", якая зусім не адпавядае іх патрэбам. І менавіта на гэтыя праблемы неабходна звярнуць увагу адпаведным уладам.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



*Станіслаў Баркоўскі.*




*...Старэйшым і па вясковаму апранутым лепш не заходзіць у пасляабедні час у гасподу „Над Нарвай": мазалі наседзяць, пакуль нешта атрымаюць з'есці. Афіцыянткі абслугоўваюць тады маладых і прыгожа апранутых.*

**М. Лук'янюк**

тачкай, зашчапіла яе, стала спіной да акна, засланіла сабою ўсё... А ён памкнуўся наперад, хацеў ёй крыкнуць нешта такое, пасля чаго яна назаўсёды перастала б для яго быць настаўніцай, а ён — яе вучнем... Ды вось пані Мар'я закрыла аберуч твар, і плечы яе задрыжалі. Данік адступіўся. Крыку за вокнамі ўжо не чуваць... І цішыня пустога класа і гэтыя малыя белыя рукі, што ўпершыню закрылі мілы калісьці твар настаўніцы, і плечы яе, што дрыжаць, — усё гэта нібы вярнула яго зноў сюды, на гэтую падлогу перад партамі... Данік спалохаўся, абмяк, адышоўся на сваё месца і стаў на калені.

— Што ты робіш, дзіця маё! Што ты крычыш!

Яна ўжо стаяла за яго спіной. А ён хацеў нават азірнуцца. „Ідзі ты к чорту! Разам з усімі вамі — к чорту!.." — гаварыў ён без слоў, усімі сіламі сваёй уражанай, як быццам ужо не дзіцячай душы. Але слёзы, гарачыя слёзы нянавісці і жалю самі каціліся з яго вачэй...

— Устань!

Данік унурыў галаву яшчэ ніжэй.

— Устань, Малец, кажу табе!..

Яна ўжо гаворыць без слёз. І ён ужо не плача. Слёзы самі паўзуць па шчоках Сівага, а ён ужо калупае пальцамі сухі, шорсткі мох у пазе, а потым нібы адрывае руку ад сцяны і пальцы самі сціскаюцца ў кулак.

— Устань, Данік! — Яна назвала яго так упершыню. — Ну, я прашу цябе — устань...

Данік устаў. Ён не глядзіць на яе, бо ўжо не можа ўзняць вачэй. Не можа і не хоча. І вось да твару яго дакранаецца цёплая далонь. Пальцы спаўзаюць па шчацэ да падбародка і хочуць знізу прыўзняць хлопцаў твар.

— Не трэба, Данік, злаваць на мяне...

Ды ён не хоча слухаць, не хоча і гэтай рукі. Матнуўшы галавой, ён вызваляе свой падбародак з яе цёплых пальцаў.

— Ну што ж, ідзі дахаты. Толькі ціха. Дай я цябе правяду цераз гэты пакой.

Пяты клас — чуваць Даніку — ужо шуміць за сцяною. Ісці тудою — сапраўды не варта. Данік бярэ з парты торбу і шапку, ідзе следам за кіроўнічыхай. Цераз настаўніцкі пакой яна выпускае яго на ганак. Хлопец не кажа нават таго „до відзэня", якое павінен сказаць. Не можа вымавіць. Ды і не хоча. Спыніўшыся на нейкі момант, ён глядзіць цераз гразкую плошчу туды, дзе на ганку цаглянага дома зноў стаіць той — ненавісны, жахлівы — у цёмнасінім шынялі...

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астрон! Я ўжо не маладая, і прашу цябе, мілы Астронік, растлумач мне мае сны! Сніцца мне, што быццам у павуцінні заблытаўся прыгожы матыль. Я выняла яго з павуціння, баючыся, каб яго не задушыць. У тую самую ноч сніцца мне, што я трымала прыгожую белую птушачку. Яна была такая маленькая, што я баялася, каб яе не задушыць у руках. Пасля я здагадалася, што птушачка захацела піць, і сказала сяброўцы, каб яна дала мне шклянку з вадою. Я напаіла птушку. Цэлы час мне здавалася, што яна вылеціць з маіх рук і ўцячэ. Тут я і прачнулася.

Ваша сталая чытачка Ірэна

Ну, што ж, **Ірэна**, хоць ты і не маладая, але чакае цябе радаснае жыццё, а можа нават і каханне. **Аб гэтым перш** за ўсё сведчыць матыль, якога ты выцягнула з павуціння. Для тваёй радасці будуць нейкія перашкоды, бо ты ж свайго матыля мусіла ратаваць, але, значыць, і радасць сваю знойдзеш.

А можа гэта будзе радасць ад тваіх дзяцей?.. Надта ж моцны апякунчы інстынкт наглядаю ў цябе. Як жа апекавалася ты птушачкай... І беражліва яе трымала, і вадою напаіла... А птушка ж, як вядома, заўсёды прыносіць радасць, шчасце...

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: У час камасацыі ў 1948 годзе была ўстаноўлена мяжа паміж сялібамі А. і Д. так, што пашырала сялібу А. коштам Д. на цэлыя два метры. Аднак А. і Д. надалей карысталіся з сваіх сяліб у межах, якія існавалі перад камасацыяй. У 1975 годзе праводзілася рэгуляцыя ўласнасці на вёсцы, і А. атрымаў акт уласнасці, у якім мяжа ўстаноўлена так, як у час камасацыі. А. хоча атрымаць ад Д. палоску зямлі, з якой Д. карыстаўся аж да гэтага часу. Д. не хоча ўступіць і тлумачыцца тым, што ён набыў уласнасць гэтай палоскі з-за даўнасці. Як па закону павінна вырашыцца гэта справа?

АДКАЗ: Камасацыя ўстанавіла новы праўны стан, паводле якога А. стаў уласнікам палоскі зямлі, якая да камасацыі з'яўлялася ўласнасцю Д. Аднак, калі Д. надалей карыстаўся з гэтай палоскі з перакананнем, што мае на гэта права — паводле закону набыў уласнасць палоскі праз дваццаць год з-за даўнасці. Аднак незалежна ад таго, ці рашэнне адміністрацыйнай улады згодна з правам, пасля яго ўваходу ў законную сілу — стварае новы праўны стан. Паводле гэтага рашэння ўласнікам палоскі стаў А. Рашэнне гэта абавязвае таксама суд, які не можа яго змяніць. Рашэнні адміністрацыйнай улады могуць быць зменены толькі адміністрацыйнымі ўладамі вышэйшай інстанцыі.

## Куток практычных ведаў

### Бяссонніца і музыка

Той, хто прымае насонныя сродкі, не мае сноў, а гэта зусім ужо і не так абыякава для здароўя, як бы магло здавацца. Людзі, аднак, якіх мучае бяссонніца, маглі б цалкам адмовіцца ад сноў, каб толькі смачна і здарова спаць. Таму глытаюць вечарам таблетку, выпісаную доктарам; яна дазваляе чалавеку заснуць, але ўсё ж не дае паўнавартаснага і добрага адпачынку. А даказваюць гэта шматлікія эксперыменты.

Даследуемыя асобы засыналі пасля прыняцця таблеткі вельмі хутка, але ўжо праз два тыдні іх арганізм быў адпорны на дзеянне такой таблеткі: сон прыходзіў значна пазней, працягваўся ён карацей. Найгоршае аднак было тое, што калі перасталі даваць насонныя сродкі людзям, якія дагэтуль імі карысталіся, то людзі не маглі заснуць без таблеткі.

Праглынуўшы таблетку, на наступны дзень чалавек прачынаецца як быццам бы разбіты, фізічна няспраўны, няздольны да псіхічнага напружання. Так дзеецца таму, што насонныя сродкі перашкаджаюць правільнаму рытму натуральнага сну, які мае чарговыя фазы. Спецыялісты, што займаюцца гэтай праблемай, заўважылі, што ў спячых дзяцей вочныя яблыкі ў пэўныя перыяды вельмі хутка рухаюцца. Назіранні сярод дарослых пацвердзілі гэтую з'яву. Тую фазу сну, якая характарызуецца рухам вочных яблыкаў называюць фазай сонных мрояў, бо менавіта тады спячы чалавек сніць, ці, як сцвярджаюць псіхолагі, пазбываецца свайго напружання, агрэсіі, накопленых на працягу дня. Усё гэта працягваецца каля дзесяці мінут, пасля чаго паўтараецца (праз 1,5-2 гадзіны).

Насонныя сродкі, а таксама алкаголь выкрэсліваюць і заглушаюць фазу сну, якая неабходна чалавеку для ўтрымання псіхічнай раўнавагі. Паралізуюць яны таксама функцыю мазгавой кары. Натуральны сон не з'яўляецца, як гэта раней думалі, „утратай свядомасці"; а актыўным працэсам, які кіруе функцыямі розных цэнтраў мозгу.

Ці можна навучыцца спаць? Некаторыя спецыялісты лічаць, што ўжо толькі тое, што чалавек прымае таблетку, сведчыць аб тым, што ён хоча заснуць, але людзі, якія перакананы, што без насонных сродкаў яны не заснуць, спяць „як забітыя", прыняўшы таблетку, у якой насоннае рэчыва заменена цалкам абыякавым для арганізму рэчывам. Адным словам, трэба мець пэўныя навыкі (напрыклад, піць штодзень позным вечарам шклянку гарачага малака, расчэсваць валасы і т. п.), каб хутчэй і лягчэй заснуць.

Псіхічны адпачынак, рух і фізічная праца дапамагаюць вярнуць правільны сон. Адным з найлепшых сродкаў, якія супакойваюць, з'яўляецца музыка. Не без прычыны на працягу стагоддзяў маці спявалі над немаўлякамі свае песні. Абапіраючыся на гэты прыклад, у некаторых еўрапейскіх бальніцах для нервова хворых дзяцей і моладзі ўведзена музычная тэрапія. Як толькі маладыя пацыенты клаліся спаць, лекары ўключалі магнітафон з плёнкай, на якой былі запісаны калыханкі. Праз нецэлую гадзіну 90% дзяцей спала глыбокім сном. Музычная тэрапія распаўсюджана таксама ў апошні час і сярод дарослых. Прамысловасць у многіх краінах пачала выпускаць невялікія падушкі з умантаванымі ў сярэдзіну апарацікамі, з якіх плыве ціхая, супакойваючая музыка. Праз 45 мінут апарат сам выключаецца. Чалавек прачынаецца рана адпачыўшы, у добрым настроі, вольны ад насонных таблетак.

**Эскулап**

## Фота па заказу

**BROTHERHOOD OF MAN**

Заказвала Валя Касцючук з Клейнік і Івона Максімюк са Старога Ляўкова.



## Ці ведаеце, што...

...у Польшчы вядзецца цяпер 900 баброў, з якіх 750 знаходзіцца ў Беластоцкім, Ломжынскім і Сувальскім ваяводствах. Найбольш бабровых логаваў знаходзіцца ў раёне Бебжа ў ваколіцах Асоўца (Ломжынскае ваяводства), у Чорнай Ганьчы і іншых вадасховішчах на Сувальшчыне. У Беластоцкім ваяводстве звыш трыццаці баброў пасяліліся над ракою Нетупай, дзе будзе заснаваны запаведнік прыроды, а таксама меншыя чародкі ў Белавежскай пушчы на рэчках Гвозьне, Нараўцы і на адным з прытокаў Леснай Правай. Недалёка ад Беластока бабры жывуць на Нарве ў ваколіцы Сліўна. Новыя логавы тых цікавых звяроў выяўлены на рацэ Нэрэслі.

**(ця)**

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка, што мне рабіць? Пакінуў мяне хлопец, якога я так кахала, з захапленнем слухала яго чулліывыя словы і верыла ў іх праўдзівасць. А ўсё гэта было хлуснёй, калі пайшоў да іншай. І так без слова, проста не прыйшоў да мяне на спатканне. А потым сяброўкі са школы мне казалі, што бачылі яго з нейкай дзяўчынай. Мне ўсё здавалася, што гэта няпраўда, што прыдзе ён да мяне яшчэ, але аднойчы ўбачыла іх сама, на свае вочы. Я хутка павярнулася назад і ўцякала, каб быць як найдалей. Мой Віця абнімаў іншую дзяўчыну. Ад тае пары мінула ўжо больш месяца. А я не магу супакоіцца. Навука не ідзе — я вучуся ў трэцім класе ліцэя. Набліжаецца карнавал, весялосць для маладых, а мне смутак. Не хаджу я нікуды. Усё роўна мне. Не ўяўляю сабе жыцця без Віці. Мы аднагодкі, столькі супольных у нас тэм было, радасці, а стала сумна і пуста.

Расчараваная Ася.

Ася! Не падай духам. Пераўвялічваеш ты сваё няшчасце. Вы занадта маладыя, каб ваша каханне было трывалым. Я веру, што цяжка табе. А думаеш, толькі табе адной? Амаль кожная дзяўчына ў тваім узросце гэтак перажывае. Ды не толькі дзяўчаты, бо і ў хлопцаў таксама такое здараецца. Проста перастала ты яму падабацца, бо ўпала ў вока іншая. А табе, напэўна, спадабаецца іншы хлопец. І пакахаеш яго не менш як Віцю. Ідзі ў кампанію, разглянься, колькі ж прыгожых хлопцаў вакол!

**Сэрцайка**




*РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ*
**ПЕРШЫЯ ВЫПРАБАВАННІ**

Дзве дзяўчыны ў старэнькіх паліто, з клуначкамі ў руках, павольна крочылі па ранішняй пустой дарозе. Звычайныя, нічым непрыкметныя дзяўчаты. Ідуць, напэўна, па сваіх справах з адной вёскі ў другую. Па начах хадзіць забаронена, вось яны і затрымаліся ў дарозе, каб іх не абвінавацілі ў тым, што яны парушаюць каменданцкую гадзіну.

— Цікава, якое гэта сяло? — прамовіла Надзя. — А раптам лётчык памыліўся? Тады як?..

Лена прамаўчала. Сапраўды, сяло, куды яны накіроўваліся, здавалася значна большым за тое, каля якога яны павінны былі прызямліцца і якое папярэдне вывучалі па карце-кіламетроўцы.

З-за павароту дарогі раптам павольна выехала фурманка, запрэжаная парай коней. На месцы фурмана сядзеў румынскі салдат. Убачыўшы дзяўчат, ён усміхнуўся і павярнуўся да другога салдата, які, прымасціўшыся на пустых скрынях, курыў цыгарэту і штосьці сказаў яму, паказваючы пугай на Лену і Надзю. Абодва засмяяліся.

Сустрэча з ворагам!.. Зусім не такой уяўляла яе сабе Лена. Хлопцы як хлопцы. Весела рагочуць. А калі хлопцы рагочуць, што ж застаецца рабіць дзяўчатам? Трэба ўсміхацца ў адказ. І Лена ўсміхаецца фурману.

Ціха паскрыпваюць колы. Коні старанна перабіраюць нагамі. Салдаты паварочваюць галовы. Трэба ж лепш разгледзець дзяўчат!

І вось фурманка зусім побач.

— Гутэн морген, фрэйлейн! — весела ўзмахнуў рукой румын.

— Гутэн морген! — адказала Надзя і ветліва ўсміхнулася.

— Гутэн морген! — паўтарыла Лена, імкнучыся стрымаць неспакой.

Салдат, які сядзеў на скрынях, паслаў дзяўчатам паветраны пацалунак і пляснуў па плячы фурмана, паказваючы, які гэта цудоўны хлопец.

— Вось кіно! — сказала Надзя, калі фурманка праехала. — Першыя жаніхі пасваталіся!

— Колькі нам яшчэ такіх сустрэнецца, — уздыхнула Лена.

Дарога, выгінаючыся, спускалася да мосціка, а потым крута падымалася да сяла, дзе пераходзіла ў вуліцу з рэдкімі дамамі, вакол якіх стаялі разбураныя плятні. Здалёк сяло здавалася пустым, усімі пакінутым.

Дзяўчаты праходзілі ўжо мост, калі з бліжэйшай хаты выйшлі стары і старая з вёдрамі. Яны накіраваліся да калодзежа, які быў выкапаны на краі дарогі.

— Вось у гэтай цёткі мы ўсё і даведаемся, — сказала Лена і хутка пайшла наперад.

Пачуўшы за сабой крокі, старая азірнулася і здзіўлена прытрымала вядро. Ёй было ўжо далёка за семдзесят. Не адно пакаленне на яе вяку змянілася ў сяле, з якога яна ніколі не выязджала. Яна ведала ўсіх і ў навакольных вёсках. Аднак позірку яе выцвілых вачэй было дасаткова, каб прызнаць у дзяўчатах чужых.

Заўважыўшы Лену, яна штосьці сказала старому, апранутаму ў залатаны пінжак няпэўнага шэрага колеру і ў старыя ваенныя штаны. Вузлаватымі пальцамі стары чапляў вядро на крук жураўля, і калі Лена падышла і стала побач, ён павярнуў да яе маршчыністы, з вечным сялянскім загарам твар.

— Дзядуля, дайце вады напіцца! — папрасіла Лена.

Стары моўчкі апусціў вядро ў калодзеж. Было чуваць, як яно паляцела ўніз і як недзе глыбока плюснулася ў ваду.

Стоячы ўбаку, старая разглядала дзяўчат.

— Уцякайце! — ціха сказала яна, калі, прытрымліваючы вядро на краі калодзежа і нагнуўшы яго да сябе, Лена пачала прагна піць ваду. — Ідзіце адсюль, у сяле вас хутка заарыштуюць.

— А хто ў сяле? — спытала Надзя, прыглядаючыся да натоўпу, які сабраўся метраў за сто ад калодзежа і на які злосна пакрыкваў салдат. Ён праглядаў дакументы ва ўсіх, хто праходзіў міма, але чамусьці не адпускаў іх, а затрымліваў.

— Румыны! — адказаў стары, адбіраючы ў Лены вядро. Самалёт ноччу ляцеў. Перапалохаліся яны, дзесьці парашутыстаў скінулі. Усю ноч хадзілі з аблавай і вось цяпер строга правяраюць.

— Ну, самалёты цяпер усюды лятаюць, дзядуля, — сказала Лена, агледаючы сяло, а сама абдумвала, як бы хутчэй вярнуцца назад і абысці яго бокам.

— Уцякайце! — паўтарыла старая. — За вёскай лагчына. Там жандараў няма.

— А як называецца ваша сяло?

— Свярдлова.

Дзяўчаты азадачана пераглянуліся. Свярдлова?! Разглядаючы ў штабе карту, яны бачылі гэту назву ўбаку ад таго шляху, па якому ім трэба было накіравацца пасля прызямлення, але ім і ў галаву не прыйшло запомніць, дзе менавіта яно размешчана.

— Там чыгунка блізка?

— Блізка, блізка... Ды ўцякайце вы адсюль хутчэй! — сказала жанчына і, падняўшыся на ганак, знікла ў хаце.

**(Працяг будзе)**

# У ЧАРЗЕ

Я сустрэў яго ў чарзе за білетамі на Губалуўку. Ён не штурхаўся локцямі, не шыўся ў натоўп, які імкнуўся наперад, а стаяў спакойна, пазбягаючы напору людзей, што ціснуліся ў чарзе, уступаў месца і прапускаў усіх, хто імкнуўся наблізіцца да касы.

— Прашу, вельмі прашу, — гаварыў ён, паказваючы жэстамі на месца перад сабою.

Назіраючы за ім амаль гадзіну, я заўважыў, што гэты чалавек не прасунуўся ні на міліметр, у той час як мне ўдалося прайсці наперад нейкіх тры сантыметры.

— Чаму вы не праходзіце? — спытаўся я ў яго.

— І праўда не праходжу, —прызнаўся пасажыр.

— Ну і як жа гэта? — здзівіўся я, заінтрыгаваны такой асаблівай у гэтай сітуацыі пазіцыяй.

— Навошта мне рухацца? Гэта зусім непатрэбна. Учора, напрыклад, мне з вялікай цяжкасцю ўдалося падняцца на горку. А якая карысць?

— Сапраўды, якая? — паспачуваў яму я.

— Заняў месца ў чарзе, каб падняцца на горку. Калі нарэшце, апынуўся там, на Губалуўцы, вымушаны быў стаць у чаргу за раскладушкай. Калі ж у мяне была яна, раскладушка, аказалася, што поўдзень ужо, дванаццаць гадзін... То не варта было браць раскладушку, бо трэба было стаць у чаргу, каб здаць яе назад. У чарзе мне давялося папрацаваць локцямі, бо тых, хто жадаў з'ехаць уніз, было многа. Значыць, кожны хацеў утрымацца ў чарзе. Потым надта доўга стаяў у чарзе, каб з'ехаць уніз. А як вярнуўся ў пансіянат, то высветлілася, што спазніўся на абед, і мне давялося галадаць да самага вечара.

— Гм... — Сапраўды... — прамармытаў я заклапочана.

— То навошта мне штурхацца? — працягваў мой субяседнік. — Прапушчу перад сабой усіх, хто стаіць у чарзе, на гару не паеду — зберагу нервы, грошы на білет і на пракат раскладушкі.

— Аднак, — заўважыў я, — з такім жа поспехам вы маглі б застацца ў пансіянаце і наогул не стаяць ні ў якой чарзе. Хіба не так?

— Бясспрэчна, — парыраваў ён усміхаючыся. — Можна сапраўды жыццё ўладкаваць, але каб зусім не стаяць у чарзе... Трэба быць рэалістам. А вы, як мне здаецца, зусім адарваліся ад жыцця. Ці што з вамі?

— О не, — запратэставаў я. — Вы ж бачыце, што я і сам стаю ў чарзе.

**Януш Асэнка**



*З былога.*

# НІЎКА



*— Або ты мне скажаш рэцэпт таго фірменнага блюда, або...*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У бар увайшоў шыкарна апрануты чалавек з дарагою цыгарай у зубах. Ён азірнуўся па баках і сказаў прысутным:

— Дваццаць гадоў ужо, як я выехаў з гэтага мястэчка. І ведаеце, калі я выязджаў, у кішэні ў мяне было ўсяго пяцьдзесят цэнтаў, якія мне пазычыў Джым Каналі. Дарэчы, жыве ён яшчэ?

— Жыве, жыве, — прашамкаў стары Джым Каналі, прабіраючыся наперад.

— Рады цябе бачыць, Джымі, — сказаў чалавек з сігарай. — Пазыч мне яшчэ пяцьдзесят цэнтаў, і я буду вінен табе якраз долар.

*

Англічанам, якія прывыклі да футаў, пінтаў і галонаў, цяжка даецца пераход на метрычную сістэму. Пераход гэты парадзіў ужо масу анекдотаў. Вось адзін з іх.

— Мам, а што такое літр?

— Літр? Гэта прыкладна тое ж самае, што і метр, але ў мокрым стане.

### ДВА ЗАЙЦЫ

Сустрэліся два зайцы. У аднаго зламаная лапка.

— Паляванне?

— Так.

— Паляўнічы?

— Так.

— Падстрэлў?

— Не, наступіў нагою.

### ЗАБЛЫТАЛІСЯ

Маці дала малой дачушцы дзве манеткі па залатоўцы і сказала:

— За гэтыя дзве манеткі, дачушка, пазвані на работу тату, а мне купі ў кіёску газету.

Праз які час вярнулася дзяўчынка і вінавата апраўдвалася:

— Мама, я пераблытала манеткі і не ведала, якую кінуць у тэлефон-аўтамат, а на якую купіць газету.

### ДАБІЎСЯ

— Учора ў час спрэчкі з жонкай я дабіўся таго, што апошнія слова было за мной.

— Аб чым вы спрачаліся?

— Яна выпрашыла набыць сабе футра з натуральнай поўсці.

— І што ж ты ёй сказаў?

— Купляй, калі так!

**...Марыў аб паветраным замку, але грошай хапіла толькі на кааператыўную кватэру.**

### У СУДЗЕ

— Замужам? — спытаў суддзя.

Сведка ўздыхнула.

— Незамужняя, — прадыктаваў суддзя машыністцы.

— Жанаты? — спытаў суддзя другога сведку.

— Сведак уздыхнуў.

— Жанаты, — прадыктаваў суддзя.

### НАВАСЕЛЛЕ

На наваселле сабраліся госці. За цэлы дзень усё выпілі і з'елі. Ужо няма чым частаваць, а яны дадому не ідуць — песні гарланяць. Вось гаспадыня, узіраючыся ў акно, кажа:

— Во ад суседа госці таксама пайшлі дадому.





### ПРЫКМЕТА

Каля карчмы стаіць малады задрыпанец і свішча. Падыходзіць да яго другі і кажа:

— Не свішчы!

— Чаму?

— Бо ў тваёй жонкі дурны муж будзе.





*Без слоў.*

## МІНІБАЙКІ

* * *

Сяброўцы Аксане
Хвалілася Ната,
Што мама і тата
Купілі ёй брата.
— Купілі б і мне,
Ды ў мяне няма таты,
А ў мамы адной
Не хапае зарплаты.

**Віктар Бародзіч**

*Угледзеў.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Юзвюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## CZASEM PRAGNĘ

**Słowa: Ryszard Czubaczyński**
**Muzyka: Adam Brzozowski**

Mam ukryty wśród snów mój własny świat,
jak krajobraz z marzeń, co wraca wciąż,
jak wspomnienie tylu wplątanych w czas
minionych dni i śmiesznych trosk,
moment — gdy jej pierwszy przyniosłem kwiat,
gdy umiałem jeszcze zachwycić się
urokiem słów... nieważnych tak.

Przebiegłem drogi zielonych lat
tak prędko, że dziś mi brak
tamtych dni, odeszłych spraw,
chłopięcych marzeń...
A życie wciąż gna, popycha mnie,
w pogoni zdarzeń — ukradkiem śnię,
choć przecież dobrze wiem, że tak się toczy świat.

Coś minęło, lecz znów jest w każdym z nas,
jak krajobraz z marzeń, co wraca wciąż,
jak wspomnienie tylu wplątanych w czas
minionych dni i śmiesznych trosk.
Czasem pragnę, by znów powrócił dzień,
moment — gdy jej pierwszy przyniosłem kwiat,
ale idę dalej, bo w końcu wiem,
że ważne jest co mi przyszłość da,
chcę zdobyć świat,
zostawić w nim swój ślad.

## КУРЁЗЫ

### ПА ЎЗРОСТУ ТЭЛЕГЛЕДАЧОЎ

Тэлекампанія заходнегерманскай рэспублікі, вывучаючы густ і попыт сваіх тэлегледачоў, прыйшла да несуцяшальных вынікаў. Усё больш тэлегледачоў не здавальняе іх творчая прадукцыя, усё часцей яны выказваюць крытычныя заўвагі ў адрас блакітнага экрана і адварочваюцца ад яго. І нішто не выручае становішча: ні новыя прыгажуні-дыктаршы, ні вастрыня сенсацыйнай праграмы. Нават паказ выпадкаў забойстваў і рабаўніцтва, перадачы парнаграфічнага характару не прыцягваюць увагі. Хочаш не хочаш, а факт застаецца фактам: асноўнымі тэлегледачамі становяцца старыя бабулькі, якія толькі зрэдку па самых неадкладных справах выходзяць з дому. Ды і бабулек у апошні час пачалі раздражняць маладыя нафарбаваныя дыктаршы.

Адной з радыкальных мер кіраўнікі тэлекампаніі абралі частую замену гэтых дыктаршаў. Нарэшце, быў аб'яўлены незвычайны конкурс сярод жанчын на замяшчэнне пасады дыктаршы бабулькай не маладзей шасцідзесяці пяці гадоў. Маўляў, няхай гэта „прыгажуня" вядзе вячэрнія размовы, яна будзе ў адносінах да галоўнага кантынгента тэлегледачоў як роўная з роўнымі і як мага больш патрапіць іх густу. Конкурс выклікаў некаторае ажыўленне. Нарэшце, пасаду дыктаршы заняла семідзесяцігадовая пенсіянерка Хелена Розмары Глас.





*Для падхаліма няма нічога страшнейшага, як радыкуліт.*